


Сяржук Сыс

# Стрэмка

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2011

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)-5
С95

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 18.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

Вялікая падзяка натхняльніцы
і першаму рэдактару кнігі
**Галіне Дубянецкай**.

**ISBN 978-985-7007-41-7**


# Край Сысоў

## Замест прадмовы

Мая радзіма — мой Смутак. Пакаленні продкаў маіх — на многіх могілках, што раскіданыя над чырвоным глінішчам дняпроўскага абрыву ад Холмеча да самай Заспы, на гэтай спрадвечнай паласе жыцця. Усе яны пахаваныя па-славянску, нагамі на ўсход. А на ўсходзе — Дняпро, частка іх светаўспрымання і лёсу. Некалі адзін з дзядоў, Іван, так і памёр у чоўне, калі шлёгаў з ракі плотак. І прыбіла той човен на водмель ажно пад Лоевам.

Бацьку майго насіла па рэчыцкай зямлі нямала, а разам з ім маці і чацвёра дзяцей. Такім чынам ён настаўнічаў. Бацькавыя карані ў мястэчку Холмеч, там, дзе некалі быў стары замак і двойчы на год праводзіліся вялікія кірмашы. Маці — з суседняга Дварца. Сам я нарадзіўся ў Пракіселі, а жыць даводзілася і ў тым жа Дварцы, і ў Холмечы, і ў Вулкане, ці на Вулкане, — бачыце, нават такія вёскі сустракаюцца! Тут наогул з назвамі нехта перамудрыў, бо той жа Вулкан знаходзіўся ў недалёкім мінулым недзе паміж Марсам і Венерай. На жаль, венерыян у пяцідзясятых гадах перасялілі ў больш перспектыўную вёску. А марсіяне жывуць і дагэтуль. Нарэшце, большая частка дзіцячых гадоў прайшла ў Заспе.

У шчыльным ланцугу прыбярэжных вёсак цяжка знайсці месца, дзе не жылі б хоць і далёкія, але ж сваякі. Гэта яшчэ, акрамя названых мясцінаў, і Гарошкаў, і Калочын. Дарэчы, паміж Дварцом і Калочынам, літаральна за 100 метраў ад мясцовых могілак, дзе ва ўзрос-

це 96 гадоў знайшла спачын мая бабуля Ганна Садаводава — славутае калочынскае гарадзішча, якое дало назву цэлай археалагічнай культуры. А ў Гарошкаве таксама — гарадзішча, гарошкаўскае. І побач з ім сваякі; а яшчэ зусім нядаўна вяртаўся да роднай хаты наездамі ўлетку цёзка і вялікі Паэт Анатоль Сыс.

Дзмітрый Лінг, прафесар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны, таксама зямляк, дарэчы, так пісаў пра тыя старадаўнія гарадзішчы: «...у Рэчыцы і яе наваколлі заўсёды пануе незвычайная аўра, непадуладная зменам на працягу стагоддзяў. Гэта інтуітыўна адчулі самыя старажытныя людзі ў Беларусі, невыпадкова тут побач месціцца гарадзішча зарубінецкай і мілаградскай культур, дзе да гэтага часу можна знайсці чарапкі, маністы, крамянёвыя наканечнікі стрэлаў». Траплялiся ў маленстве такія рэчы і мне, а некаторыя і дагэтуль засталіся са мною.

Неяк на Вялікдзень выдалася нагода праехацца з сябруком Валерам па дняпроўскім правабярэжжы — вёсках Холмеч, Дварэц, Калочын, Велін, Левашы, Луначарск (Брагідоў), Красны Мост, Заспа, Гарошкаў. Месцамі памяць не захавала дакладных арыенціраў, але адшукаць хаты сваякоў часам дапамагалі тамтэйшыя жыхары. Валера тады жартаваў: з такой, маўляў, раднёй можна жыць ды радавацца (вядома ж, Вялікдзень: і пачастуюць, і нальюць, і з сабой дадуць). У Дварцы над стромаю старога раўчука, парослага вольхай і ляшчынай, урастае ў мурог, дажываючы свой век, асірацелая хаціна бабулі Ганны. Зайшлі на двор, а яго — двара — няма. Усё захапілі ў шчыльны палон маладыя парасткі асінак і бяроз; рыхтык сапраўдныя нетры, ледзьве прадзерліся да дзвярэй. Спыніўся тады пасярод гэтага маладога і нахабнага падлеску, прыгадваючы, як садзіў тут, на схіле рова, гадоў трыццаць з нечым таму кусцік бэзу. Цяжка паддавалася ямка, бо рыдлёўка не магла адразу прабіцца праз пласт ракавак таўшчынёй з локаць. Бабуля растлумачыла, што сюды, за плот, штодня дзясяткамі гадоў скідвалі скражкі ад рачных бяззубак. Іх збіралі ў рацэ дзеці, каб мясам з ракавак карміць качак і свіней.

А на сэрцы, нягледзячы на святы дзень Хрыстовага ўваскрэсення, было шчымліва. Са мною, нібыта стрэмка пад скурай, падарожнічаў Смутак. І куды ад яго падзецца... Лягчэй, напэўна, быць чалавекам без каранёў, істотаю наднацыянальнай, Homo звычайным, чым вось так, праз душэўны боль, адчуваць у сабе цыкуту гэтага неўміручага Смутку.

А ў маленстве ж такога пачуцця не было. Падлеткам, калі ці не кожны цёплы вечар на колы ровара намотваліся кіламетры знаёмых дарог, радзіма была мне ўсюды: і ў Свірыдавічах, куды дабіраліся ў клуб на танцы, і ў Левашах, і на Маі, дзе нас, заспенскіх хлапцоў, чакалі найпрыгажэйшыя ў свеце дзяўчаты... Анідзе не было адчування, што ты прышлы, што не дома. Радзіма! З гадамі, зразумела, пашырыліся далягляды самога паняцця: сталі сваімі, блізкімі, і Гомель, і Мінск, — аднак паралельна час неўпрыкмет звузіў геаграфію адчування Смутку. Прыкладна так, як у фокусе павелічальнага шкельца. Гляджу ў яго, бачу — Заспа. Тут жыве маці, тут зусім нядаўна памёр бацька. Гэта вёска, якая ніколі не была асабліва роднай, але не стала і чужой. За дзесяцігоддзі жыцця па-за ёю тут з'явіліся новыя вуліцы, дамы і, вядома, шмат новых людзей. Частка з іх — вымушаныя перасяленцы з вёсак, апаленых чарно-

быльскім попелам. Да таго ж акрылела новае пакаленне. Цяпер і павітацца на вуліцы часам няма з кім. Хіба што пад мясцовым магазінам, дзе ўжо апоўдні цмыголяць цыгарэты яшчэ жывыя аднагодкі і сябры дзяцінства. Здараецца калі-нікалі, у тутэйшай дзяўчыны ці хлапца заўважаеш характэрныя, вядомыя ад маленства рысы твару, і тады здагадваешся, што яны носяць на сабе адбітак вобразу сваіх бацькоў. І ўспамінаюцца тады мясцовыя роды Куртаў, Цукерак, Ярцаў, Самбрэраў ці Стрыжакоў.

Але ж ізноў пераследуе Смутак. Ад безвыходнасці і непапраўнасці зменаў, ад таго, што замкнёнасць, абмежаванасць інтымнага валодання Радзімай паволі нішчыцца, ад таго, што частка вяскоўцаў бессэнсоўна стаіць дзень у дзень пад мясцовай крамаю...

Ды ўсё ж, на ўсе часы, да самага майго скону застаецца са мною і самае светлае — Дняпро. Барысфэнэс, Славуціч, бацька нашых рэк. Зрэдку наведваючы Заспу, не магу не сустрэцца з гэтай адвечнай веліччу. Ад самага маленства вядомыя мне яго старыцы і рукавы, мялізны і перакаты, віры і кручы. Рака — гэта вялізная краіна, у якой ёсць усё: межы, цэнтральныя раёны і правінцыі — Груда, Самоўня, Засабка, Перавал, Евін пясок, Вінчавае возера... А ў жніўні тут чырванеюць чароўныя карункі чыліму — рэліктавага вадзянога арэха, паласавацца якім карціць і дагэтуль. Дзіўная гэтая расліна! Калі спелая калючка адрываецца ад сцяблiны-матулькі і ападае на дно, то зусім неабавязкова, што ўвесну яна прарасце. Можа прайсці дзесяць ці наогул пяцьдзясят гадоў да таго моманту, калі над роўняддзю дняпроўскай вады з'явіцца невялічкі зеленаваты карунак, — значыць, сышліся зоркі і прыспеў ягоны час. І дагэтуль грэе пуза на беразе бацькаў човен, а рука і зараз, у нячастыя мае прыезды на радзіму, не стамляецца апускаць вясло ў цьмяныя глыбіні ракі. І вось тады пачынаецца падарожжа ў дзяцінства, у той час, калі межы Радзімы былі тут, а значыць, была і сама Радзіма. Хаця ці магчыма ўвайсці ў адну і тую ж ваду двойчы? Ранейшы бялюткі пляж пабраўся тванню і брудам. На Галоўцы — такую назву мае востраў пасярод Дняпра — пластыкавыя бутэлькі, бітае шкло, бляшанкі. Калі зрэдчас трапляю сюды і вызначаю месца для стаянкі, каб павудзіць у выходны дзень, спачатку некаторы час прыбіраю смецце, спальваю яго на вогнішчы. Рачныя пралівы і тоні пазарасталі лотаццю і серпарэзнікам, дый рака паволі звужвае свае берагі. Тады ўсё адно ахінае Смутак. Мой светлы Смутак па маёй вечнай Радзіме. Вызваліцца ад яго, відаць, немагчыма, ды і не хачу. Нямецкая пісьменніца Ангеліна Мэхтэль сказала некалі:

Хто прыдумаў яе сабе,
Гэтую неласкавую краіну,
Радзіму маю?

Я дадам: сваю Радзіму і свой светлы Смутак я стварыў сабе сам.

* * *

У горадзе шэрым,
квадратна-кубічным,
усцяж паралельным
і скрозь сіметрычным,
дзе сціплае сонца
з-за гмахаў звісае
і промні, што дзіды,
туман прабіваюць,
дзе коміны неба
паранілі дымам,
дзе пахне мазутам,
іржой і бензінам,
скрозь панцыр асфальту,
праз тоўшчу бетону,
прабіўся да сонца
парастак
клёна.



* * *

Ноч. Павуцінне сноў.
Дзень. Павуцінне спраў.
Скажаш, нібыта скраў
Некалькі нечых слоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Радзіма

Рэечкі парыпваюць,
а ў купэ — задуха,
за акном жа краявід
наскі, не чужы.
Вызваліўшы гузікі
на кашулі, слухаю,
як зямля радзімая
пада мной дрыжыць.

Часам матка родная,
часам баба хцівая...
Ды якая ёсць ужо —
ёсць яна,
Ра-дзі-ма!



* * *

Я забіты.
          Як вядзецца ў бардаў,
Галаву раструшчыў мне камень,
І вачэй маіх нянавісць і пагарду
Груганы дзяўбуць каторы дзень.

Я забіты.
          Кроў мая — шыпшына
Паабапал змучаных дарог.
Я цябе, зямля мая, пакінуў,
Я цябе, Радзіма, не ўбярог.

Я забіты
          ў змрочных камяніцах,
У юдолі велічных муроў.
Нада мной схіліліся званіцы
Недаруйнаваных кляштароў.

## Белакаляровы верш

На белым, крухмальна белым,
Пад лямпаю з белым шклом,
Ляжу і гляджу нясмела
На белы дзвярны праём.

А тут, у белай палаце,
Дзе з белае кафлі дол,
У беласнежным халаце
Бландзінка мне робіць укол.

Пасля — цішыня такая,
Што чутна, як песню зімы
Белае сонца спявае
І гулка стынуць дамы.

Маўкліва зайздрошчу людзям,
Што там, між белых снягоў...
І ціха ўліваецца ў грудзі
Чужая і цёмная кроў.



## У мястэчку

З непакрытай галавой,
На кані гарачым,
Сэкундэла, панскі войт,
Па мястэчку скача.
Сэкундэла — важны чын:
Глянь з любога боку —
Белы войтаў казачын
Відзен быў здалёку.
Нораў войт упарты меў,
Ганарысты дужа.
Ды аднойчы, неўспадзеў,
Гэпнуўся ў калюжу.
Войту сораму гара
Прыдушыла грудзі:
Ад крыса да каўняра
Казачын забрудзіў.
Ледзьве ўсцёгся на каня —
І да брамкі спехам...
А мястэчка на паўдня
Залілося смехам.

## Вадалей

Ляціць сузор'е Вадалея
Па галалёдзіцы нябёс
У лес, замецены завеяй,
На шлях, заснежаны наўскос.

Трашчаць прамерзлыя яліны,
Мароз бярэцца ўсё мацней...
Аднак няўжо напраўду вінны
У тым далёкі Вадалей?

Ён сам хацеў у гэты вечар
Цішком  пашастаць па зямлі
Ды паглядзець, як тут, у печы,
Мігцяць таемна вугалі.



* * *

Скончыцца праца, і ногі  прыўзнімуць
самлелае цела,
І калідорам у ліфт,
а з яго ў амбразуру дзвярэй,
Дзверы знаёмым абцасам услед
узравуць ашалела,
Што ў перакладзе з дзвярынай:
«Да пабачэння, Сяргей!»
Рукі дастануць з кішэняў
скамечаны пачак «Апалу»,
Вочы зірнуць насцярожана —
хопіць ці не цыгарэт?
Ногі прыпыняцца —
што, брат, застаўся ізноў без запалак?
Выручыць моўчкі агнём
на прыпынку бліжэйшы сусед.
Чмыхне смярдзючы «ікарус»,
набіўшы валляк шумным людам,
І праз сем вуліц
аддасць мяне лесу ліхтарняў сляпых.
Недзе між іх
цьмяна высіцца шэрабетонная груда,
Недзе у ёй я жыву,
па начах пераводзячы дых.

* * *

Што было паміж намі?
Нічога.
Ні знаёмства,
Ні нават сустрэч...
Так, на момант злучыла дарога,
А праз момант
Штурхнула прэч.



* * *

Пра цябе я стаміўся думаць,
Толькі ў памяці ты, як верш:
Лёгкім воблакам вечнага суму
Скрозь бяссонную ноч плывеш...

# Кропля

*М. Багдановічу*

Я — лёгкая кропля,
якую
зусім выпадкова
ранак пакінуў
на барве ліста прыдарожнай асіны.
Мой час — невядомы,
мой  лёс — незваротнасць,
і стан раўнавагі
праз момант парушыць вецер-бадзяга.
Слязой зіхатлівай
пад ногі людскія
скачуся
у пыл пакаленняў, які
рассунецца, прыме мяне,
без сумненняў,
углыб, у былыя вякі.
Там брудам жыцця стану я,
каб змаглі
зачапіцца на лісцях
новыя кроплі расы,
што сарвуцца калісьці.

я лёгкая кропля
мой час невядомы
слязой зіхатлівай
брудам жыцця



# Зімовым шляхам

Над стрэхамі хат завіруха гудзе,
Ні пеўня, ні брэху не чутна нідзе,
Ваколіцы цемра хавае.
Трашчаць у мароза на гострых зубах,
Бярвёны прамерзлыя ў стылых зрубах
Ды снег пад падэшвай спявае.

А вокны з карункавым матавым шклом
Так дражняць,
                так вабяць вячорным святлом,
Нібыта зайсці запрашаюць.
Па хатах плыве п’янкі водар куцці,
Такі, што карціць проста ўзяць ды зайсці,
І ногі свой бег прыпыняюць...

Знаёмая змалку дарога дамоў
Наўскос перасыпана пылам снягоў,
І я, разам з Гердай і Каем,
Занесеным шляхам пакрочу далей,
Туды, дзе ў няіснасці белых завей
Мяне мой прытулак чакае.

## Яднанне

Якая музыка гучала...
Пякла і вымагала слёз,
То да аблокаў уздымала,
То ў пропадзь скідвала з нябёс!
Не божы цуд, людскія рукі
Будзілі звыкла знічкі нот,
І спавіткі чароўных гукаў
Для песні ткалі палатно.
Што свет!
Няхай яго не будзе,
Няхай з-пад ног маіх зямлю...
Я праз расхрыстаныя грудзі
Чуйней мелодыю лаўлю.
І жальба ў ёй, і тонкі смутак,
І жарсны шэпт, і вояў кліч...
Стаў вольным я, парваўшы путы,
Спазнаў, як княжыць вечны Знiч.
То плыў па хвалях невялікіх,
То біў мяне дзявяты вал...
Урэшце стомлены музыка
Зняволіў скрыпку ў футарал.



## У верасовым лесе

Пад сытаю поўняй — коні,
Па сініх абшарах — коні,
Лятуць і знікаюць коні,
Шумяць верасы-лясы.
Я чуў іхні бег, здаецца,
Яшчэ да народзін поўні,
Магчыма, прыблуда-рэха
Данесла іх галасы.
Магчыма, і так... Ці варта
Ламаць крохкі куфар веры:
Яны недзе тут, я ведаў,
І досыць аб гэтым слоў!
Пазбаўлены сну і волі,
Пазнаўшы адчай пустэльняў,
Я зведаў абдымкі поля
Густых верасоў-лясоў.
Ляцелі скрозь ноч, скрозь верас
Няўлоўныя цені коней,
Іх цяжкія грывы вецер
Заблытваў у міражы.
Дальбог, ці было ўсё гэта:
Шум верасу, коні, поўня,
Імклівыя танцы ценяў,
І сам я ці быў, ці жыў?

* * *

Божа,
каб мог ты вярнуць,
што калісьці са мною было:
з жахам збягаю па схіле,
здаецца, бяздоннае кручы.
Вецер,
і слёзы ў вачах,
і нага над бутэлечным шклом...
Памяць дзяцінства —
край неба...
трыпутнік крывавы...
балюча...



## Паненка дажджу

Нудны дождж а дзясятай гадзіне,
Калі вечар халодны снуе
Пракаветнай журбы павуцінне,
Выгнаў з дому нарэшце мяне.
Сярод вулак, цемрай параненых,
Па траншэях сцішэлых двароў,
Стану блукаць да самай раніцы,
Каб сустрэць яе постаць ізноў.
Раскажу ёй, такой таямнічай,
Пекнай панначцы мокрых начэй,
Як, бяздумна парушыўшы звычай,
Я сышоў ад цяпла і людзей.
«Ты паслухай, пад шчыльным дахам
Толькі ціша ды супакой...
Вось таму я без жалю і жаху
Пабягу напрасткі за табой».
Засмяялася пекная пані,
Стрэсла кроплі з доўгай касы
І прапала ў халодным тумане,
Там, дзе ўпаў на зямлю небасхіл.

* * *

Калі твае крокі — адзіная музыка ночы,
А рэха-кавадла падэшвы
у асфальт уціскае,
Здаецца, што той, хто нябачны,
цікуе, і сочыць,
І крадзецца побач,
і постаць яго нелюдская.

У ракаўку жаху затулена дрогкае цела,
Ідзеш і не маеш ні слова,
ні думкі, ні волі,
А ноч настаралася зор,
самых яркіх і спелых,
Карункаў касмічных,
якіх не паўторыцца болей.

Чакай жа, нябога,
спыні крокаў пошчак таропкі,
Зірні ў зіхатлівую прорву
халоднага срэбра,
І той, хто цікуе —
пражытаю зробіцца кропкай,
А той, хто быў ты, —
стане часткаю ночы і неба.



# Мне добра з вамі!

*Барысу Пятровічу*

Яшчэ ёсць неба
і яшчэ не
Патухла ў чэравах гадоў
Флюарэсцэнтнае свячэнне
Душы, пажадлівай да слоў.
Яшчэ не ўшчэнт расчараваны
Жалезнай логікай жыцця,
Крычу:
— Мне добра, людзі, з вамі,
Я вашай літасці працяг!
Іду да вас, безабаронны,
У сэрцы крыўдаў не таю
І самых шчырых слоў мільёны
Вам да астачы аддаю.
Пакуль ёсць неба —
Будзь, што будзе:
Нянавісць, здрада ці падман...
Мне добра,
Добра з вамі, людзі,
А іншай ісціны няма.

* * *

Я не збаюся ўпасці з вышыні
Свайго неверагоднага палёту,
Спаліць душу аб зорныя агні,
Каб на зямлі сканаць затым употай.

На жаль, не мне адчайным птушанём
Па стромкіх кручах ветру падымацца
І недзе ў высі, скончыўшы пад'ём,
Чакаць ад неба славы і авацый.

І паляцеў бы, аж не той крыві,
За спінаю не крылы — горб пакоры...
Вось толькі цень мой шэры і крывы,
Здараецца, чапляе часам зоры.



## Звар'яцелае сонца

Пазрываныя з неба ружы,
адшуканыя ў полі зоры
і амаль звар'яцелае сонца,
быццам дар, пакладу ля ног.
Разарвуцца сталёвыя «нельга»,
сутыкнуцца дрыготкія пальцы,
і амаль звар'яцелае сонца
спаліць ветах нашых трывог.
Напачатку не хопіць слова,
потым нават яго замнога,
і амаль звар'яцеламу сонцу
не спазнаць глыбінь нематы.
Ці такая, дальбог, нязбытнасць —
твая згода і кветкава-зорна,
і амаль звар'яцелае сонца,
калі недзе ёсць я і ты?

## Хадзем са мной!

Хадзем са мной па шэрых рэйках дзён,
Па спінах слоў, знявечаных падманам,
Няхай грымяць праклёны наўздагон
І недаверу крышацца парканы.

Ёсць іншы свет, ёсць свет першаасноў:
Жывуць там у вышэйшым вымярэнні —
Там мераюць напалмам палкіх слоў
Дабро і зло, жыццё, нябыт і цені.

Хадзем са мной, нядоўгім будзе шлях,
Дашчэнту пыл дарогу зацярушыць,
А на мяжы рассунецца зямля
Ды прыбярэ зняможаныя душы.

Хадзем са мной, бяжым адсюль хутчэй, —
Яшчэ ёсць час застацца вартым веры, —
У вечную паэзію вачэй,
У нараспах адчыненыя дзверы.



* * *

У парку пустэльным
Каханне жыве,
Яму тут хораша жыць,
Схавалася недзе у
Мокрай траве,
Дзе слёзкі крыштальнай імжы.
Падобна нацятай тугой цеціве
Жаданне лістотай дрыжыць,
Чаруе яно, за сабою заве
У восеньскія вітражы.
Але прыпыніся, суцішся, ўяві,
Пакліч яго ціха, скажы
Аб тым, як у гэтай
Дажджлівай крыві
Няма для кахання мяжы.
Спакуслівы вечар
Паволі плыве
Над паркам, што на Сажы...
Пяшчотная восень і постаці дзве,
Якім паасобку
Не жыць.

* * *

Душа мая — як лёс старых калёс:
Прыткнуліся нямоглыя на ўзбоччы...
Што шлях ліхі дазвання не растрос?
То Боскі дар — жанчыны любай вочы.

Душа мая — няветлае жытло,
Дзе нат агмень халодны і сірочы.
Але і тут здаралася цяпло,
То Боскі дар — з жанчынай любай ночы.

Душа мая, такою будзь, як ёсць,
Я не баюся твой спакой сурочыць.
Хай да цябе з'яўляецца Яймосць
Няспешнаю паходкаю жаночай.



## Іншым разам

Іншым разам здаецца,
цябе не было;
так пасля трыццаці
не бывае дзівосаў...
Толькі здрадніцы-рукі
адчуюць цяпло
і нырнуць у тваё
саламяныя косы.
Недарэчна размотваць
пачуццяў сувой:
нас цяпер не прымусіш
сустрэцца ніколі...
Іншым разам мой розум
не ладзіць з табой,
і тады ты мне плаціш
самотай і болем.

* * *

Я не ўмею словам
з-пад уласнай скуры
вызваляць пачуцці,
Вас датычаць што.
Позірк мой Хрыстовы,
палкі і пануры,
Вам прапаліць грудзі
разам з паліто.
Мне ад Вас не трэба
ранішняй гарбаты
і абавязковых
вымытых панчох,
мне б пад гэтым небам
вольна ладзіць свята
разбіцця аковаў
з Вашых рук і ног.
Мне б за Вашы веі
кропляю ўхапіцца
і гайдацца проста
над агнём вачэй.
Рукі ледзь знямеюць —
Вам пад ногі ніцма,
з Вамі ў хвалі просцін,
у палон начэй.



# Дрэва

Здалёку, як пільная чорная кропка,
Што трапіла раптам у нерат паперы,
Скалелае дрэва брыдзе нетаропка,
Насустрач сябрам, цеплыні і даверу.

Узносіць разлапіны голага цела
Да стылых і мёртвых балясін нябёсаў,
На аркушы свежага снегу нясмела
Пакінула косы шматкроп'яў ды косак.

Ушчэнт абабрала зіма-рабаўніца,
І дрэва стаіць анямелым праклёнам,
Ніяк не жадае віхурам скарыцца,
І сніць яно сон, шапаткі і зялёны.

## Аднак

Ты верыш, што дзень нарэшце
Сыдзе за гай басанож,
Збяжыць, як вада праз рэшата...
Ты верыш у гэта.
Ды ўсё ж...

Ты ведаеш, ноч загіне,
У шызай растане імгле.
Вось яна — стылая, сіняя...
Ты ведаеш гэта.
Але...

Ты ўпэўнены, прыйдзе ранак,
Такі ж, як і ты, юнак,
Звонка гукне на ганак...
Ты ўпэўнены ў тым.
Аднак...



## Хрыстовая нявеста

У стылым храме велічнай зімы,
Дзе гневаецца змрочная завея,
У цемрадзі пранізлівай нямеюць
Шкілеты дрэў ды сонныя дамы.
Ледзь чутны спеў даносіцца здалёк,
Ледзь чутны галасок дзявочы, —
Нібы раптоўна трапіўся на вочы
На ўскрайку жыта сціплы васілёк.
Лунае песня свечкай трапяткой,
Кладуцца снегам незямныя ноты.
Стаіць яна, адораная цнотай,
Збянтэжаная святасцю сваёй.
Застыў і я, задумліва-нямы,
І нават не адразу заўважаю,
Што спеў мяне шкадобай ахінае,
Што плачу пасярэдзіне зімы.
Але яна ільдзінкі маіх слёз
Нявінным пацалункам адагрэла:
«Ёсць уладар маёй душы і цела,
Ён самы лепшы, ён — Ісус Хрыстос.
Ты думкі разам з песняю пакінь,
Няхай цябе мінаюць боль і скруха.
Айца, і Сына, і Святога Духа,
Амінь!»

# Быць альбо не быць

За сцяною — поле,
Чорнае, пустое,
А за полем прорва
Стогне ў хмызняках.
Там пугач палюе
Над цвілой вадою,
Крыламі сівымі раздзімае жах.
У начным сутонні
Змрок згінае плечы
І сцірае межы
Між дабром і злом.
Ні дарог, ні броду
На той бок пустэчы,
Дзе ў смузе трывожнай
Цьмяніцца святло.
Шэпча хвошч самотна
Над злавеснай кручай:
«Лепей за сцяною
У спакоі жыць».
Толькі вабіць прорва —
Крок раблю рашуча...
«Выбачайце, сцены.
Быць альбо не быць!»



# У сіроцкім жытле

...Вось дом, дзе не жыве ніхто...
Не парушаючы спакою і засоваў,
Зліналы цень свой, нібы паліто,
Пакіну на прыступках адмысловых.
Так млосна тут, ні ладу, ні душы,
Рыпяць услед рассохлыя масніцы, —
Іх цяжкі стогн бяссільны заглушыць
Нямы дакор сіроцкае бажніцы.
Адкрыйцеся, выявы абразоў,
Дзе той, хто спавядаўся перад вамі,
Хто кінуў дом, а сам адсюль сышоў?
І я адказ пачуў пад абразамі:
«Хто быў паперад, той ужо даўно,
Узлезшы на бялюткія аблокі,
Знік незваротна ў вечным руме сноў...
А шлях туды ёсць блізкі і далёкі.
Зірні, як прагна шчэрыцца праём,
Дзе ўдзень і ўноч палюе Зніч змарнелы,
Прымі ўладанне, стань гаспадаром,
Каб у жытле жыццё не адрунела.
А ледзь надыдзе вызначаны час
І ў Судны дзень завершацца падлікі...»
Я прыгадаў, што вельмі мала нас,
І скінуў на парозе чаравікі.

# Трыпціх сутоннай душы

*Г. Дубянецкай*

## 1. Горад

Позні снег, казытлівы і колкі,
Ліхтарам зацярушвае шкельцы,
На сіроцкім касцёле анёлкі
Нема скурчылі стылыя цельцы.

Нетры вуліц, ранейшых і новых,
У якіх мусіць моўчкі хавацца
Даўніна, згвалтаваная ў сковах
Шклобетонных кварталаў ды пляцаў.

А на могілках дзікіх, вячорных,
Дзе нябожчыкаў больш не хаваюць, —
Цені дрогкія: белы ды чорны...
Між крыжоў тут і там узнікаюць.

Не астудзіць ім сэрцаў завея,
Не разлучыць іх горад маўчаннем,
Бо сутонныя душы паспелі
Узаемна спазнацца вачамі.

## 2. Споведзь

Як я зайздрошчу вам,
мудрыя дзіды-званіцы!
Стод маёй веры нязгаснае — звон-уладар.
Вось бы на момант
дазвання з ім целамі зліцца



Ды дачакацца,
калі ўрэшце прыйдзе званар.

Песняй званоў,
ачышчальным святым хваласпевам
Вылью́ся, вырвуся з тоўшчы металу хутчэй,
Хвалямі гукаў у сэрцах заб'юся збалелых,
Пырскамі нот акраплю і жыццё, і людзей.

Бронзавым гулам магутным
прайдуся па хмарах
І ўжо з нябёсаў
звалюся ў людское «маўчы!»,
Каб, растварыўшыся ў душах сутонных
і марах,
Стаць толькі водгукам,
сумам і проста нічым.

## 3. Ноч

Крадзецца ноч манашкаю самотнай,
Каб прыпыніць сутонных душ палёт.
Цвікамі слоў працятыя смяротна,
Яны растануць, быццам крохкі лёд.

Ноч на зямлі пакіне нашы целы,
А ў сполахах няісных ліхтароў
Паўстануць цені дрогкія нясмела,
Размытыя шурпатасцю муроў.

Цяпер ёй нас не разлучыць ніколі,
Хоць крыжам адмяжуецца няхай!

Два нашы цені трапілі ў няволю,
Што нам мілей за недасяжны рай.

Прыходзь жа, ноч, апошняя, зямная,
У вэлюме прадоннай чарнаты,
Мы вырак твой бязлітасны чакаем,
Каб не знайсці сябе сярод святых.



* * *

Новы дзень размалюе па-новаму
Звыклы шэраг падзей і сустрэч,
Шэрань здасца ў палон ружоваму,
І адыдзе разважлівасць прэч.

Разарвецца бадзёрым клічнікам
Учарашні занудлівы сум,
З маладым падгулялым кастрычнікам
Будзем срэбную піць расу.

А нап'ёмся — па хрусткай чырвані
Закарціць нам удвух шамацець
У ружовае і немагчымае,
Што магчымым стане на ледзь.

## Залатыя міроны

Некалі свет жыў па іншых законах,
Шмат надаралася дзіваў тады —
Ладзілі срэбныя птушкі міроны
З тымі, чый колер быў залаты.
Разам шугалі ў бязмежнае неба,
Разам птушыны ўчынялі разбой.
Рваў цішыню іх сумесны малебен
Трэснутай іерыхонскай трубой.
Ды з вышыні наглядзеўшыся ўволю
На чалавечы падман і хаўрус,
Срэбныя сталі чарней ад вуголля,
Лепшы забралі прытулак і кус.
Залатакрылым і безабаронным
Чорныя вынеслі хціўы прысуд...
І назаўжды залатыя міроны
Зніклі і болей не з'явяцца тут.



## Чалавек у чорным паліто

Ён ішоў, ды раптам недарэчна
Працадзіў скрозь зубы: «ты — ніхто»,
Выпадковы вулічны сустрэчны
Чалавек у чорным паліто.

Небарака, я ж зусім не цацка,
Задаволены сабою на ўсе сто —
«Ты — ніхто!» — нібыта я знянацку
Трапіў пад імклівае аўто.

# Зло

Раней
марыў я
мастаком стаць вялікім
і лёс свой распнуць перад тронам Мастацтва,
ды ў час на мяне нехта д’ябла наклікаў,
і я захварэў раптам
думкай
вар’яцкай.

Каб
чорнае фарбы
сабраць дастаткова —
хоць душы людскія і пекла на злом!—
які атрымаецца твор адмысловы,
задуманы мною
пад назваю
«Зло».



# Дзеці Сонца

*У. Агафонаву*

Ад часін Візантыі і Рыму,
Як ёсць Буда, Алах і Хрыстос,
Шлі ды йшлі па зямлі пілігрымы,
Каб знайсці залатое святло.
Анікога не зблытаеш з імі —
Бронзай чыстай гараць між людзей...
Дзеці Сонца, дзе ваша радзіма,
Рай загублены ў вечнасці дзе?
Я цалую вачамі пустымі
Гронкі сонечнага сяйва:
Дзе той дом, што ніхто не адыме,
Дзе святло залатога жніва?
Толькі марна — праходзячы міма,
Нібы ў сне запаветным жыву,
Бачу неба ў барвяністым дыме,
Сонца сцятую галаву.
А здараецца так, што на ўздыме
Промні сонца ўдарaць пад дых,
І пасля вось такога экстрыму
Я амаль разумею іх.
Пагаджуся — не хлебам адзіным...
Трэба волі, хаця б ледзь-ледзь.
Вось таму я жадаю быць з тымі,
Хто на сонца здольны глядзець.

# Рыбка

Рыбіна-гарэза
пляжыць хвалі целам,
вольна раскашуе
ў бездані рачной,
то хвастом — аж пырскі! —
прабліскоча смела,
то імкліва кінецца
з кручы галавой.
У вадзе крыштальнай
жвір на дне здаецца
смелай ганарліўцы
срэбным мурагом.
Аніхто не трэба
ледзяному сэрцу,
толькі б супраць плыні
піць жыццё нагбом.
Не дражні, бліскучка,
долю сваю злую,
не паказвай сонцу
шэры плаўнічок,
бо аднойчы ранкам
і цябе ўпалюе
востры і цярплівы
рыбака кручок.



* * *

Не вяртаюцца стрэлы і словы...
А каханыя намі жанчыны
Спакаваны і складзены ў сховах
Пад пячаткай гадоў хуткаплынных...
Там для кожнай свая паліца,
Свой надзел перажытага раю,
Ды адзінай табе не ляжыцца:
Ты сваволіш, а я адчуваю,
Як знікае святло нечакана,
Каб з нябыту вярнуць на імгненне
Сонца шал, што на сэрцаэкране
Ажыўляе шчаслівыя цені.
Не загана на кінаплёнцы,
Што ў касеце ляніва буксуе:
На сваіх далонях, нібы сонца,
Я трымаю цябе, залатую.

# Парасон

Дождж-нахаба схапіў за грудкі
Млявы горад хлёсткай рукой,
Мкнуцца шумныя раўчукі
Стаць ракой.

Тратуар — што лядачы паром,
Зарыпіць ды вось-вось паплыве
Над майданам, а там, за вуглом —
Па траве.

Хвошча дождж і наўскос, і наўзмах,
Што там графіка Пікасо!
Толькі мой не скараецца сцяг —
Парасон.



# Страта

Не адзіная ты маеш грыф
«незваротная страта», —
Шмат гублялася блізкіх людзей
у жыццёвым трысці,
Але першая ты сярод тых,
перад кім вінаваты,
Што згубіў і не змог,
і не здолеў дагэтуль знайсці.
Можна доўга ўзірацца ў сцяну
і акна не заўважыць,
Можна біцца ў акно
і лічыць яго тоўстай сцяной,
Можна проста не жыць,
альбо жыць і над стратамі княжыць,
Толькі хто ў гэткім княстве
захоча назвацца княжной?
Больш за смерць ненавіджу
выключную логіку смерці,
Страта — нібы маленькая смерць
і такі ж абсалют,
Гэта пляма, якую з душы не адмыць,
не сашкрэбці,
І дарэмна здзіраць,
калі сутнасцю робіцца бруд.
Існаванне тваё,
як сукупнасць вядомых малекул,

Верагоднае
толькі за межамі сённяшніх дзён,

Але я адшукаю цябе,
каб на зломе кароткага веку
Ці, магчыма, пазней
зноў падыхаць з табой ва ўнісон.
Я знайду цябе там,
дзе да болю стэрыльна і бела,
Дзе патрэбы няма анікому маніць і хітрыць.
Назавуць наша воблака
княствам дваіх ашалелых,
Дзе апроч нас з табой
будуць толькі багі і вятры.



## Крозы пра нябёсы

Вольны вецер грудзей не кране,
Абяскрылелі ўшчэнт летуценні.
Не ўзляцець па-ранейшаму мне:
Вельмі доўга стаяў на каленях.
Дык адкуль так выяўна — разбег
І штуршок ад нябачнага трапа...
Я над горадам помню сябе,
Над жывою стракатаю мапай.
Пульсавала напружана кроў,
Ашалелая, білася ў скроні,
Як лунаў над бязладдзем двароў
І кранаў хмарачосы далонню.
Я калісьці распытваў людзей
Пра дзівосныя тыя палёты,
А яны замаўкалі ў хадзе
Ці смяяліся з дурня ўпотай.
Сумнявацца і я стаў ледзь-ледзь:
Мала што там прымроіцца змалу...
Толькі розумам як зразумець
Тых людзей, што лятуць у Шагала?
Значыць, можна... іх бачыў мастак...
Значыць, праўда, што лётаюць людзі?
Можа, заўтра з якога маста
Сігану стрымгалоў.
Будзь, што будзе.

## Пазлы дзён

з выпадковых імклівых маланак-паглядаў
ды кавалачкаў слоў, што гуляюць на волі,
нават часам з пякельнага болю падманаў
і палётаў, якія зрэдчас дорыць сон,
а яшчэ са святочных сталічных парадаў,
з летуценняў, якім, пэўна, збыцца — ніколі,
а яшчэ... а яшчэ... а яшчэ...
беззаганна
выкладае жыццё пазлы дзён...



* * *

І калі больш не будзе дажджоў і завей,
А адно — безнадзейнасць скразная,
І калі за бранёю службовых дзвярэй
Мяне болей сябры не пазнаюць,
І калі аж да пятак жыццё апячэ,
І калі пачарнею з адчаю —
Веру, знойдзецца выйсце яшчэ —
Я нап’юся дый заспяваю.

# Калі былі маімі рэкі

У час, калі былі маімі рэкі,
Калі пёк спіну Евінскі пясок,
Так певень у суседа кукарэкаў,
Што ўсхопліваўся нават Гарадок.

І меркаваў я розумам малечым,
Што той ракі павек не пераплыць,
Што певень-ганарлівец будзе вечна
Знарок штодня на досвітку будзіць.

Ды ўсё ж, калі спрачаўся з быстрынёю
І цела аддаваў пяску пасля, —
Я падсвядома ведаў: там, за мною,
Спагадлівая бацькава зямля.

Цяпер і пеўні гэтак не наглеюць,
Схуднела неабдымная рака...
Аднак дагэтуль вочы маладзеюць,
Убачыўшы выпадкам земляка.

Я зразумеў, пра што ён кукарэкаў,
Калі прайшлася скронямі зіма:
У час, калі былі маімі рэкі,
Я ў спадчыну радзіму атрымаў.



# На зыходзе дня

Агромісты, блякла-барвяны слімак
Лянiва спаўзае за шызыя выспы,
Таўчэ камарэча над студняю мак,
Грувасцяцца цені на цёплыя прызбы.
А выганам статак рахманы брыдзе —
Плыве малако з лугавін на падворкі,
Шукае ахвяру нуда-авадзень,
Ды пахне зямлёю, вясной і махоркай.
Пралез надвячорак праз дзіркі ў платах,
Сабой запалоніў двары, наваколле,
Спявае задзірыста ў прыцемках птах,
Сінее за вёскай далёкае поле.
Сціхаюць сялянскія спрэчкі да дня,
А ледзь толькі золак — хітрэйшы паспее
Замовіць са стайні калгаснай каня,
Каб першаму соткі картопляй засеяць.

# Мой Дняпро

На выломе Дняпра, што грызе аржаны,
Зачарсцвелы з вякамі абрывісты бохан,
Грэюць гладкія пузы на сонцы чаўны,
Як жанчыны з фантазіяў Босха.

Пазнае тут здалёку рыбак рыбака,
Разлятаюцца пырскі няхітрай размовы
Пра жыццё і аб тым, як схуднела рака,
І, вядома, яшчэ пра уловы.

У затоках, дзе шэпчуцца спрэс чараты,
Чаплі хітрыя зайздрасна выгнулі шыі...
Пэўна ведама ім, што з глыбінь нераты
Не прыходзяць ніколі пустыя.

Мільгане ў хвалях чайкі адчайнай крыло
І віры між аблокаў уздыме...
Ёсць рака і рука, што трымае вясло,
А вясло — гэта шлях да радзімы.

Шмат сплыло, а яшчэ колькі сыдзе вады?
Толькі з памяці змыць нават ёй немагчыма,
Як у жніўні рака накідае заўжды
На сябе апранаху чыліма.

Вось тады я збіраю сваіх сябрукоў,
Хто яшчэ помніць вуду, кручок і падсаку,
Каб на досвітку шлёгаць яршоў і бычкоў
Ды глядзець, як паклоны б’е бакен.



* * *

Засынаюць рэкі да вясны,
Кроў начных артэрый камянее,
На люстраных коўзанках звініць,
Слізгаецца шчасная завея.

А глыбей, пад скураю ільдоў,
Спачываюць велічныя сілы
Плыняў, паўнаводдзяў і гадоў,
Што на дне запластаваны ілам.

У спакоі стынуць берагі —
І віры цішком іх не падрэжуць,
Перамір’я белыя сцягі
Да вясны пароўну ўсім належаць.

З тысяч безназоўных ручаін
Моц Дняпра, Гарыні, Пцічы, Сожа.
Розны лёс у рэк, а шлях — адзін,
І той рух нішто спыніць не можа.

## Сваякам

На кладах, па-над стромкім Дняпром,
Між старых раскудлачаных ліп,
Спяць даўно неабудным сном
Баба Ганна і дзед Пілiп.
Ручаіна ды жвірысты груд,
Кружна ўзносіцца клёкат буслоў.
Тут жылі і пакутвалі тут,
Сябравалі з касой ды вяслом.
Дзе жалобныя кірлі крычаць
Над нястомнаю плынню Дняпра,
Будуць вечна, нязбудна спаць
Дзед Пiлiп і яго сястра.
У клапотах, якіх віхор,
Не пакінуць мяне ні на міг,
Бо ёсць права ў тых, хто памёр,
Ад бяды бараніць жывых.
Быццам зоркі нябёс, неўпрыкмет
Падыходзяць да родных сядзіб
І, здаецца, глядзяць мне ўслед
Баба Ганна і дзед Пiлiп.



* * *

У чаўне па вялікай вадзе
плыць і піць узахлёб паветра,
аддаляючыся ад людзей —
спадзявацца на літасць ветру.

Плакаць вольна з крывым дажджом,
помніць бераг, сухі й высокі,
чуць, як першы травеньскі гром
раздзірае шыхты аблокаў.

Углядацца радзей і радзей
у зліццё паўнаводдзя з небам...
У чаўне па вялікай вадзе
мне да неба дагрэбці трэба.

* * *

Недзе тут,
Між абрыдлых
Дамоў гарадскіх,
Паўзадушаных ціскам
Бязлітасных вуліц,
З-пад асфальту ўзаўецца
Зямля на дыбкі
І надзеяй мяне
І пяшчотай
Атуліць.



* * *

Мы тут жылі, жывём, нам трэба жыць,
Не пакідаючы бацькоўскае дарогі —
У сэрцы і з Чарнобылем, і з Богам,
Распнутым некалі Пілатам на крыжы.

Мы тут, сярод параненай зямлі,
Ахрышчаныя стронцыевым пылам...
Ахвяры ці злачынцы, Божа мілы,
Дагэтуль разабрацца не змаглі.

Мы тут усе закладнікі бяды,
Не адвядзеш яе, не пераможаш...
Вялікі дзякуй, літасцівы Божа,
Што ты не збег адгэтуль нікуды!

# Святы вечар

Гомель, стамлёны за год, палагоднеў...
Дай жа яму адпачыць ад хады,
Боскае міласці дай хоць сягоння,
Вечар калядны, вечар святы!

Хораша як тут, у парку над Сожам,
Срэбрам гараць над ракою масты,
Плечы капліцы аснежаны гожа...
Вечар калядны, вечар святы!

Ў небе асмужаным соймішча зораў
Рдзіста раздзьмулі наўсцяж халады.
Месяц блішчыць над званіцай сабора...
Вечар калядны, вечар святы!

Вуліцы вабяць неонам стракатым,
Смехам гуллівым — задор малады,
І спадзяванне на вечнае свята...
Вечар калядны, вечар святы!

Вечнае свята... І некалі сына
Пах усхвалюе хваёвы, густы,
Сонейка цёплае мандарына,
Гомель калядны, вечар святы!



# Мясцовы час

Мясцовы час...
Няспешны плёскат Сожа,
спагада позіркаў, што ловіш незнарок,
на скрыжаванні выцвілы «ларок»,
язмін ды бэз за кожнай агароджай.

Жанчына размаўляе з галубамі,
«Пятра і Паўла» ціхі перазвон,
пах ежы з незачыненых акон...
Мясцовы час,
як вытрымаць экзамен?

Мясцовы час...
Ці я ўжо не мясцовы,
па свеце натаптаўшыся як след?..
Дымяць патроны танных цыгарэт,
каля піўной плятуць карункі словы.

На ровары — падлетак круглатвары,
педаль нагой кранаючы ледзь-ледзь...
Мне за табою болей не паспець,
мясцовы час...
Стрыножаныя мары.

* * *

За акном тваім
прыветным і шырокім
пралятаюць птушкі і аблокі,
пад акном тваім
тугі праспекта пояс,
рупіцца, віруе мегаполіс.

На вачах тваіх
густая павалока,
ты глядзіш у некуды, далёка,
у вачах тваіх
нязбытная сустрэча,
што дарэмна абяцае вечар.

У душы тваёй
з-за цёмнай аканіцы
позірк мой палае, прамяніцца,
а душа твая —
сукно начнога неба...
Ды на неба
сёння мне
не трэба.



## Людзі паслянавальнічнае эры

Афішы змываючы з твараў вітрынаў,
Людзей заганяючы збоем пад дахі,
Ліпень залеву на Гомель абрынуў —
Водар лазы ды аерныя пахі.

Стома сплывае з праспектаў руплівых,
Перапыняюцца пульсы артэрый,
І выбягаюць пад дождж нецярпліва
Людзі паслянавальнічнае эры.

Бурбалкі ўспеньваюць гладзь тратуараў,
Кроплі гаючыя лашчаць лістоту...
І ў гамяльцоў прабягае па тварах
Лёгкая ўсмешка дзіцячай пяшчоты.

* * *

Таемны дух начных сцішэлых вуліц,
Настоены на праўдзе і мане,
Да ледзяных грудзей мяне прытуліць,
І сэрца зноў трывогай скалане.

Згадаю, як вучыліся да поту
Пад алтаром ліхтарняў залатых
Разменьваць і цнатлівасць, і пяшчоту,
А рэштай біць наводмаш і пад дых.

Так, я таксама вытрымаў экзамен
На званне Майстра хцівасці і змоў...
Хоць часам яшчэ пырскаю слязамі
На змрочныя брыкеціны дамоў.

Дух горада, скажы, як разабрацца,
Дзе лабірынт, дзе правільны маршрут?
Яшчэ наперадзе нямала варыяцый —
Яшчэ не Цэзар я, а ты не Брут.



* * *

Пад цёплым жніўным крылом
З горада ды ў небакрай
Развозіць начное святло
Па вуліцах мёртвы трамвай.

Праз горад у сны ідзем,
У неруш халодных ільдзін,
Дзе — рэйкамі... Брукам дзе,
Уздоўж аслеплых вітрын.

Як хораша будзе нам
Нагбом — цішыню ўдваіх
Па дзвесце з прычэпам грам
На роспеў...
На памяць...
На слых...

## Камяні

Я расціў камяні,
Я збіраў камяні —
Аддаваў камяні проста так.
Хто трымаў пры сабе,
Хто збярог для вайны,
Хто прадаў камяні за мядзяк.

Ці сагрэюць душу
Камяні хоць каму —
Ці такой я чакаў цеплыні?
Ні дамоў з камянёў,
Ні карысці ў зіму —
Не гарэць, хоць ты плач, камяні.

У кішэнях людскіх
Камяні зараз спяць
Ці ляцяць у чужы агарод.
Я расціў камяні...
Каб урэшце аддаць
І душу, што спыніла палёт.



* * *

*Анатолю Сысу, паэту*

Дагадзіў жа ты мне, Анатоль,
дагадзіў...
Хоць тваімі шляхамі
амаль не хадзіў —
я начамі тваімі
не ведаў начэй,
прама ў вочы глядзеў,
ды не бачыў вачэй.

Не двайнік твой, не брат
і не зменлівы цень, —
толькі сэрца маё
апаліў твой «агмень»,
я відушчым,
як фенікс, з нябыту ўваскрэс
ды пайшоў за табой
у бурштынавы лес.

І ты ведаеш, што я знайшоў,
Анатоль?
Дыяментавай голкі тваёй
гостры боль.
Немагчыма ў віне
гэты боль утапіць:
шмат разоў намагаўся —
баліць і баліць,

шмат разоў паўтараў,
зверху ўніз, зверху ўніз:

«Я не той, я не Сыс...
Толькі ўсё-такі Сыс».

Дагадзіў жа ты мне, Анатоль,
дагадзіў,
як аднойчы вадою
з Дняпра напаіў...
І цяпер скрозь
рабінавых дзён каламуць
пуцявіны мае
праз Гарошкаў вядуць,
дзе паміж прыдняпроўскіх
радзінных равоў
засталося зямлі
для абодвух Сысоў.



# Яблыкі пана Вінчы

*Галіне Дубянецкай*

Па садзе пана Вінчы ў лістападзе
Плыве пяшчота цьмянага святла,
Яго да схочу ў яблыневым садзе
Ніколі ты паглядам не піла.

А тут жа сонцаяблыкі, якія
Удзячная атульвае трава,
Хоць гэты рай, што пан даўно пакінуў,
Сваё амаль аджыў, адгараваў.

Цяпер тут шмат у прыцені сугуччаў
Цябе — са мной, а з намі — даўніны.
Прыйдзі, паглянь, як абдымае сучча,
Як панскі сад закрадваецца ў сны.

Тут рукі дрэў змагаюцца з туманам,
А сэрцы яблыкам мароз парасцінаў.
Прыйдзі, я з цемры яблычак дастану,
Які пан Вінча ад людзей схаваў.

## Парцалянавая лялька

Колькі ты дзяўчатак, лялька, няньчыла!
Ты была і Таньчына, і Гальчына,
Спала, прачыналася і танчыла —
Толькі б гаспадыньцы дагадзіць.

Ручкі парцалянавыя збіліся,
Вочкі бірузовыя закрыліся,
Босенькія ножкі прытаміліся
Колам зачарованым хадзіць.

Ты цяпер на пенсіі, пад лесвіцай,
Спрахламу куфэрку стала хрэсніцай,
І цяпер з табою побач месцяцца
Пара чаравікаў ды гаршчок.

Ты цяпер не Стасіна, не Яніна,
Толькі сэрца ляльчына паранена,
Што сваім паненкам не параіла
Болей нарадзіць на свет дачок.



## Самота ля стараадаўняга касцёла

На правым плячы векавога крыжа,
Дзе зубы гнілыя шчэрыць іржа,
Драмае крумкач альбо грак...
Такі ж пракаветны, як гэты касцёл,
Які каранямі заглыбіўся ў дол,
Нібыта бясскрыдлы вятрак.
Сядзіць на крыжы і глядзіць з вышыні
На тых, каго птушкі лічаць людзьмі,
Якія не ўцямяць ніяк,
Што ўстыла вось так,
нібы пільная смерць,
Глядзець зверху ўніз
на быцця кругаверць,
Хоць ты і крумкач альбо грак.
Ссівеў мудры птах на крыжы пакрысе,
А побач людзей Нешта ўдалеч нясе,
Што людзі назвалі жыццём...
Аднак надараюцца светлыя дні,
Тады ненадоўга сціхаюць яны,
І іх паглынае касцёл,
Спрадвеку ягоны касцёл.

# Залацісты цмок

Хай вылупіцца аранжава-залацісты цмок.
Мы ўсе зачакаліся.
*Ева Вежнавец*

Цмок — заступнік беларусаў...
*Людзі кажуць*

Ева, верыш, вылупіўся Цмок,
Ды не з яйка чорнага — з Сажа,
Залацісты, выпаўз на пясок,
На ўзбярэжжы вольна паляжаць.
У пясок угрузлі кіпцюры,
Што зубрам распорваюць бакі,
А ў вачах — то мутныя віры,
То лагодны ліпеньскі блакіт.
Крэўны, наш, разлёгся ля вады,
У самоце: ведама ж, адзін.
Ды на Еў палюе маладых,
Мусіць, і апошні Цмокаў сын.
І ўначы, напэўна ж, паляцеў,
У агнях і велічы грымот,
Адшукаць сапраўдных каралеў,
Каб не знік тутэйшых цмокаў род.
Кажуць людзі, што бароніць ён
Свой народ і вогкі той пясок,
Што на свет народзіцца дзіцё —
Залацісты беларускі Цмок.



# Вужыная поўня

Дзе апошняя поўня вужыная
Мые твар у прыціхлым Сажы,
За вярбой і сухімі ажынамі
Дзеляць яблык апалы вужы.

Ля ракі, што нізамі туманіцца,
Разліваюць жаўцё ліхтары,
З іх святлом застаюся да раніцы,
Да світальнага сонца ўгары.

Дык тады ўжо з астатнімі сіламі
Над Сажом палячу на край-свет.
Будуць мне надламанымі крыламі
Ветракі памахваць услед.

Палячу ў неабсяжнае, сіняе,
Некаханы і ўжо незямны,
Назіраць, як звялы дэльфініюм
Замірае ў чаканні зімы.

Ломіць рукі палёт мне і, стомлены
Прыцягненнем далёкай зямлі,
Упаду паміж Заспай і Гомелем
У расхростаныя палі.

Скуру вымыюць пальцы кашчавыя
Вераснёвых самотных дажджоў,
Колкай пожняю, ссохлай атаваю
Я, без рук, дапаўзу да вужоў.

Можа, прымуць і з велькай літасці
Не адмовяць у цёплай нары?
Толькі вужам бы з поля выпаўзці
Да ракі, дзе мігцяць ліхтары.



## Русалчыны слёзы

Сядзела русалка на белай бярозе,
Ой, рана на белай, ой, рана сядзела,
Губляла ў лісточках зялёныя слёзы,
Ой, рана губляла, ой, рана на белай.

Звісалі да долу лазовыя косы,
Ой, рана звісалі, чакалі вяночка,
Русалчыны слёзы палеглі, як росы,
Ой, рана каціліся чэрвеньскай ночкай.

Шапочуць срабрыстыя побач палосы,
Ой, рана шапочуць, ой, не на Купалле,
А з белай бярозы няўцешныя слёзы,
Ой, рана смарагдамі ў межы сцякалі.

Не мчаць агнявыя колы з пагоркаў,
Ой, рана, дзяўчаты вяночкаў не снілі,
Зляці лепш з бярозы цяцерчыным пёркам,
Схавайся да часу ў забытай магіле.

# Змяіны цар

Шызае злятае павуцінне
На разлапы дрэваў, на драты,
Адгарэла чэзлае бацвінне.
Звіжанне. Начныя халады.
Невытлумачальнаю трывогай
Поўніцца стары здзічэлы бор,
Змеі зазбіраліся ў дарогу
Да таемных схованак і нор.
Нерушам вільготным і замглёным,
Па карчах, скрозь нетры і гушчар,
Павядзе іх золатакаронны,
Мудры павадыр, Змяіны цар.
Дзе крычаць начамі нема совы,
На прагалах, між глухіх лагчын,
Мы сустрэнемся абавязкова,
Толькі б путы страху рассячы.
Божа мой! Я сам сябе не чую,
Я дыхнуць баюся да пары...
Раптам Цар карону залатую
Скіне і растане ў гушчары?
Колькі год шукаю утрапёна,
Нібы ў час засушлівы ваду...
Ці знайду змяіную карону,
Мудрасці змяінай ці знайду?



# Сад вогненных сліўняў

Залаты вянок цыбулі
Сохне пад паветкай,
Адзічэлы сад бабулін —
Бэры ды ранеткі.

Ціха ў прыцені, якая
Тоіць лес крапіўны,
Тут маланкамі мільгаюць
Вогненныя сліўні.

Гэтак хочацца да жыта,
Што шуміць пад бокам,
Там валошкамі расшыты
Поле і аблокі.

Заблукаць да ночы ў хвалях
Спелага калосся,
Каб русалкі казыталі
Ільняным валоссем.

Слухаць конікавы цытры,
Стаць павек палонным
Не вачэй, чароўна-хітрых,
А віроў зялёных...

Б'ецца яблыкамі ліпень,
Ап'яняе мята,
А русалка ў жыце ўсхліпне
У чаканні свята.

Як салодка, аж да болю,
Чуць усхліпы тыя...

Я прашу, пусціце ў поле,
Сліўні-вартавыя.

Жах бярэ, што пад нагамі
Танцы сліўняў палкіх,
Што на раніцы лугамі
Росы п'юць русалкі.

Залаты вянок цыбулі,
Сонцава сурвэта...
Больш няма маёй бабулі
І валошак лета.



## Нуда-вада

Пла́чу, пла́чу, пла́чу,
Як плачу́ за ўдачу,
Як лячу ўдалечыню
Да гаючага агню...

Пасвіцца ў прасторы,
Падрастае гора,
Я да слёз яго звяду —
Піць салёную ваду.

# Майстрыха

Яна тузала ўпарта камяк белай гліны,
Выляпляла нервова нішто, абы-як,
І пакуль яе пальцы акрэслілі спіну —
Шмат разоў разбівала няўдзячны камяк.

Дзве крывуліны ног, лоб амаль дасканалы,
Рук сцябліны ляпіліся проста на здзек,
Потым дробны каменьчык
у грудзі ўвагнала,
Каб кахаць мог гліняны яе чалавек.

Форма ёсць і такія знаёмыя рысы:
Ці не я гэта сам, як паменшыць на сем?
Ажываю. Кажу: «Называй мяне Сысам,
Прывыкай жа цяпер да мяне пакрысе.

Хоць і з гліны, але, калі высахну крыху
І гарачае сонца падсмаліць бакі, —
Так кахаць цябе буду я, цуда-майстрыха,
Як яшчэ не кахалі твае мужыкі.

Як Петрарка чароўнай Лауры санэты,
Буду вершы адзінай табе прысвячаць...»
Ледзь пачула яна, што стварыла паэта, —
Пачала ліхаманкава гліну змінаць.



* * *

Белай сукенкай,
што ўчора прыемна быў
здзіўлены я,
сакуры цёплую бель
нагадала ты мне
мімаволі.
Ведаеш,
недзе праз некалькі дзён
у далёкіх-далёкіх краях
замець цнатлівая
будзе ізноў чараваць,
балявацъ
і сваволіць.

## Слуп і бярозка

Яны сябравалі, напэўна, здаўна —
Слуп з ліхтаром і бярозка, —
Была маладой і прыгожай яна,
Адзінай на ўскраіне вёскі.
І ён быў таксама відным слупом,
Якіх зараз знойдзецца мала.
Яна яго ўночы кахала, а днём
Увагі на слуп не звяртала.
І слуп ліхтаровы аднойчы згубіў
У прыцемках розум цвярозы,
Ён моцна хістаўся і пырскаў слязьмі
Ды раптам упаў на бярозу.
А ранкам яго выдзіралі з галля,
Куды ён ад ветру зваліўся,
І нема крычала бяроза: «Не я,
Ён сам да мяне прычапіўся».



* * *

Схаваныя між слоў,
сярод падзей цунамі,
заблытваючы нецярплівы час,
легенды
паміраюць разам з намі,
каб потым жыць,
але, на жаль, без нас...

## Бывай, Ярыначка

Бывай, Ярыначка, бывай!
Каб мог, лёг бы дакладна
Дарогай на Друскінінкай,
Пяшчотнай і спагаднай.

Па мне праехала каб ты
Ды каб хоць раз, хоць крыху
Пачула нервы-правады
Пакінутага псіха.

Тут Гомель, восень і адчай
Сышліся ў пантаміме,
Кашмары сняцца па начах,
А дні даўжэй за зімы.

Жыву пульсацыяй хвілін,
Што сталі сувязнымі...
Я без цябе, ды не адзін,
Між тэлефонных ліній.



# З ЦЫКЛА «ВЯСНА Ў ДРУСКЕНІКАХ»

## Бэз

Так, невыносна жыць
на гэтай зямлі, калі без
цябе і крыху іранічных вершаў пра бэз...
*Тацццяна Сапач*

А як жа паэту без іранічнага верша пра бэз,
Які бессаромна ўглядаецца ў шэрыя шыбы,
У мікраскапічныя шчыліны шчэміцца спрэс,
Шкрабецца ў акно, б’ецца крылцамі нібы?

І шчыра шапоча: «Пусці асцярожна ў свой сон.
Дазволь падзяліцца кароткай,
як выдых, раскошай,
Паслухай, свае перашкоды адпраў пад адхон,
Раскрый згаладалае цела для радаснай ношы...

Адкуль і навошта няўцямны дурны супраціў?
Няспешна пяшчоту прымі,
а на золку падзякуй...»
Паверыў самотны паэт
ды адчайна акно адчыніў
І, шчасны, аблашчаны водарам бэзу, заплакаў.

## Друскенікі

Друскенікі. Трымценне цішыні.
Чатыры дні распроставаюцца плечы.
Тут не сезон. Тут рэдкія агні.
Тут бэз прастуе проста праз парэнчы...

Халодны бэз над Нёмнам, без мяжы,
Мацуе бераг стромкі каранямі...
Між намі ток сустрэчны прабяжыць
Зламаным промнем на кардыяграме.

Магчыма, што адзіны гэты знак
З бязважкасці ў сябе мяне вяртае:
Таемны крыж зямны сядлае шпак,
Крыж на касцёле сонца абдымае.

Кавярні пастка раптам паглыне
Мяне і вып’е волю да астачы...
Друскенікі, на памяць пра мяне
Збярыце ў соснах рэха «Ačiū»!*

* Ačiū — дзякуй! (*Літ.*)



* * *

Друскенікі згубіліся ў лясах,
Пульс правінцыйны слухаецца вяла,
Плыве над Нёмнам кавы чорнай пах
Салодкай неадольнаю навалай.

Бы ластаўкі, між столікаў снуюць
Афіцыянткі ў гжэчнай «Каланадзе» —
У строях чорных, хуткія, што ртуць;
«Любы капрыз!» — як сэнсары ў паглядзе.

Які капрыз? Адчую ў першы раз
Разгубленасць адсутнасцю жаданняў,
Сваю адсутнасць тут, дзе згінуў час,
Жаданне болей не жадаць дазвання..

Друскенікі згубіліся ў лясах,
А я прапаў на Віленскай алеі...
Бяссільны нават кавы чорнай пах,
Калі на амнезію захвараеш.

* * *

На блакітным ватмане Друскене
Акварэльным пэндзлікам стыхій
Святлацені хмар малюе геній
Месцаў гэтых ціхіх і глухіх.

Ажываюць пульхныя аблокі
На азёрным чыстым палатне,
Марыюша звон плыве здалёку,
А вакол — птушыны паланэз.

Я бязвольны... Лёгка мне ў палоне,
Дзе і колераў, і гукаў пераліў,
Той сімфоніі, якую сам Чурлёніс
Праз гады нанова паўтарыў.

Вецер з Балтыкі, задзірлівы і шпаркі,
Абрынае ў возера тугу,
Палятуць да Беларусі хмаркі,
Я ж ляцець так хутка не магу.



## Вартавыя сноў

Мой сон і спакой вартуюць партрэты
святых, сваякоў і, вядома, паэтаў...
У багетах і без, на кніжных паліцах
тамоў пасярод ім таксама не спіцца...

Пад самаю столлю,
між «Казак народаў Бірмы» —
Мікола Капернік, вясёлы і ўжо ціхамірны.
Побач з малітваю Опцінскіх старцаў
нескораных —
фота з аўтографам Алеся Бяляцкага бела-чорнае.
Злева ніжэй — здымак таткі, Сыса Анатоля,
які пераплыў сваю Лету
і спіць на дняпроўскім раздоллі.
Побач — выява пляменніка па жончынай лініі,
які абаперся на томік
«Населеных пунктаў Валыні».
Вялікі партрэт дачкі Станіславы,
аздоблены лоўка
са Станіславам Булак-Балаховічам
гжэчнай паштоўкай.
«Таму, хто знойдзе» — арыенцір для тых,
хто не петрыць,
што абразок прападобнага Сергія
там, дзе каньяк «Ай-Петры».

Днём ці ўначы, пры мёртвым
святле электрычным,
годна глядзіцца Міцкевіча Адама аблічча.
У Міцкевіча свой асяродак, ягоныя берагі

атачаюць Славацкі, Кольбэ і Ян Павал Другі.
Хавае бутэльку ўкраінскай мядовай пярцоўкі
з выявай Марыі Уршулі Ледухоўскай паштоўка.

На акварэлі, памерам 40 на 40,
у добрым настроі
Ірына, якая даводзіцца швагеркай мне,
а жонцы Галіне сястрою...
Вакол шмат маленькіх малюнкаў,
ды толькі адзін мне вядомы —
рэпрадукцыя Канестабіле, Рафаэлевай мадонны.
Асаблівы давер да строгай выявы
мучаніцы Галіны
ды абразкоў Святой Маці Жыровіцкай
і Еўфрасінні
Полацкай, побач з якімі месцяцца
статуэткі з Хіны,
укрыжаванне Хрыстовае з Ерусаліма,
падручнік лаціны.
І тут, нечакана, пад Гаруновым
«Матчыным дарам»
Разанава позірк блісне,
спапяліць грудзі жарам.

У абакружжы «Жніўных песень»
і «Паэзіі радзіннай» —
Святая пакутніца
(ці то царыца, але не швагерка) Ірына.
Крыху ніжэй — рэпрадукцыі
Мінскае Божае Маці,
Тройцы Святой і грошы, якія патрэбна аддаці...



А ля акна, з выглядам на траецкія Маабіты,
Сціснутая багетам Вінчава «Мадонна Літа»...

Рэпрадукцыі, акварэлі і фотапартрэты —
частка майго начнога сусвету...

## Дзяўчына

Дзяўчына, якая так шчыра з табою гуляе
Зрэдку ў размовы
і значна часцей у маўчанку,
І ежу гатуе, і чэша грабеньчыкам косы якая,
А болей за сэкс марыць выспацца ранкам, —

Сляпую якую вядуць у кавярню, каб потым
Абавязкова абрынуць на дол,
ці на стол, ці на ложак,
Якая так шчодра за гэта падзеліцца потам
І фантастычнымі ўздрыгамі вуснаў,
а можа, і ножак, —

Якую ты да і пазней, а яшчэ на світанні
Так ненавідзіш, што чуеш,
як крышацца зубы,
За тое, што дорыць яна
бессаромна каханне,
Дарэчы, якое таксама звычайная згуба, —

Якая аднойчы заржэ цябе нечакана
Банальным іржавым нажом,
без ніякай нагоды,
Якая сама — не жыццё, а крывавая рана,
Глыбокая плынь,
дзе сядаюць на мель параходы, —

Што больш, чым ваякі, загады твае паважае,
Без аніякай надзеі падпарадкавацца,
Якая жыве недзе там, паміж пеклам і раем,



Ці, болей дакладна,
паміж не тваіх мастурбацый, —

Якой невядомы экстаз ад фатэльнай самоты
І розніца ў слове «распуста»
і ў слове «нявіннасць»,
Якая і брэндзі, і півам напоўніць употай
Венаў аб’ём, захаваны для марачных вінаў, —

Зацята якая шукае ў мужчынскіх кішэнях
Свядоцтваў твайго верагоднага кроку налева,
Якая на вершы плявала і на летуценні
І непрытомнела ўраз ад няхітрых напеваў, —

Якой аніколі ніхто не даўмеўся тлумачыць,
Што ціхая здрада
не можа быць з’явай прыстойнай,
І асабліва тады, калі ты не мужчына, а мачо,
Здатны на самыя кровапралітныя войны, —

Дзяўчына, якая народзіць
дзіцятка, падобнае Богу,
І ён будзе ты, а сама...
а сама застанецца дзяўчынай...
Не ведай ніколі, што кажа паэта нябогі:
Цябе не кахаць і не жыць —
як і жыць і кахаць — немагчыма.

* * *

Паміж Гомелем ды Мінскам,
недзе там, мажліва, блізка,
сярод восеньскай імжы
цень мой раптам прабяжыць...

па сцяжыне, праз масткі,
цераз поле, напрасткі...
не крыўдуйце, як скрозь сон
закране каго крысом,

на каго абрыне снег,
каго ласкай ахіне,
расцярушыцца ў тумане —
і мяне зусім не стане...



# «Дух — гэта, людзі, я!»

*Анатолю Сысу*

Я сынам сваёй Айчыны
завуся да той часіны,
як памяць бунтуе мая:
«Дух — гэта, людзі, Я!»

У шчасці альбо ў самоце
мне шэпчуць крылцы ў палёце
гарошкаўскага матыля:
«Дух — гэта, людзі, Я!»

Надзьмешся часам нішчымнай
пыхай, ды раптам — не гімнам —
ўздыбіцца крыкам зямля:
«Дух — гэта, людзі, Я!»

У восеньскім мокрым суцьменні
напоўню халодныя жмені
кроплямі згадак з галля:
«Дух — гэта, людзі, Я!»

Паслухайце, над небакраем
як голас Паэта лунае
рэхам буслінымі здаля:
«Дух — гэта, людзі, Я!»

* * *

*Ю. Ч.*

Па дарозе між Крэвам і Ракавам
Чыкільгаў на трох лапах сабака,
І дзяўчына па прозвішчы Чорная
Патанала ў томіку Чорнага...

Не глядзелася спадарожніцы
На сады і палі парожнія,
Як шаша кінастужкай сцелецца
У сляпую, што крот, мяцеліцу.

Шляхам часта такое мроіцца!
Вось, здаецца, грукоча конніца,
Гэта я з паланянкай-князёўнаю,
Мне крывёю і духам роўнаю.

А пагоня хрыпіць за спінамі,
Верасамі прастуе сінімі,
Крумкачамі злятаецца чорнымі...
Спіць дзяўчына па прозвішчы Чорная.

Па дарозе між Крэвам і Ракавам
Ёй таксама сніцца ўсялякае...
А дарога чаруе і гушкае...
Томік Чорнага — за падушку ёй.



# Аблачынка

Драмае над Траецкім дзяўчынка-аблачынка,
Пакуль яшчэ такое бязгрэшнае дзіцё!
Пушынцы не вядомыя ні слёзы, ні хмурынкі
І з горадам сасмяглым струменнае зліццё.

А ейны цень-блізнятка па Свіслачы сплывае,
На хвалях, як далоньках, пагойдваецца ледзь,
Як тая, што ў нябёсах, і крышку не такая,
Карціць ёй дыяментам на сонцы зіхацець.

Паветра ў жменю сцятае ад раўнавагі крохкай,
Ды ўжо цішком крадзецца Нямігаю пастух.
І вось падзьмула вуліцай у вокны, дрэвы, лёгкія,
І аблачынка рушыла на свой жыццёвы круг.

А з ёю віртуалка, распырскваючы промні,
Павольна расцярушваецца ў свіслацкай вадзе...
А я пасплю ў Траецкім, і сярод п'яных мрой мне
Падушкай аблачынка паслужыць гэты дзень.

* * *

Ёсць свабода пайсці адсюль
Безаглядна, на ўсе бакі,
Проста знікнуць, сысці на нуль,
Як шуга па плыні ракі.
Ёсць свабода глухім нямком,
Невідушчай дзённай савой
Не пачуць, як бацькоўскі дом
Аплятае хлусні павой.
Ёсць свабода займець сяброў,
Што цябе, як тару, здадуць,
З насалодаю пусцяць кроў
Ды на могілках адпяюць.
Ёсць свабода... Ці злічыш сам,
Колькі хто тут мае свабод?
Толькі праўды ледзь на сто грам,
Ды і то не ва ўласны рот.
Ёсць свабода... Але, дазволь,
Часам гнюсна смярдзіць яна.
Лепей трапіць у нерат няволь,
А свабодай нацешыцца ў снах.



## Падарожжа ў зіму

Падарожжа ў зіму
пачынаецца ў высмяглым жніўні,
Калі мроіцца снег,
а нябёсы працялі рагаціны дрэў,
Нібы шнары ад драпінаў,
што сакавік прычыніў мне...
«Калі ласка, квіток да зімы!
Я так цяжка без снегу хварэў».
Раздзімаючы ноздры,
ля Свіслачы песціць чаканне
Хрумсткіх шкельцаў,
яшчэ не рашчаўленых днём-немаўлём,
Прачынацца, глядзець у акно
і скрозь шкло партызаніць
За разведбатальёнам зімы,
што бязбоязна прэ напралом.
І не ўбачыць пачатку атакі, якая парушыць
Сытых вуліц і плошчаў,
апухлых ад доўгага сну, статус кво.
Замяце гэты чортавы горад па самыя вушы
Хоць на зыбкую ноч першабытнай віхуры сяйво.
Вось і ўсё...
Міралюбна палягуць снягі над Нямігай,
Твой квіток — несапраўдны,
і зняты з маршруту зваротны цягнік...
Падарожжа ў палон да зімы перапыніць адліга,
За якой — Вызваленне,
Кастрычніцкі пляц, сакавік.

## Люстэрка

Глядзіцца ў люстэрка смерць,
каб там убачыць мяне.
Ды не...
Я слабы, каб спакойна ўзірацца ў люстэркі...
І таму парасло яно пылам на шэрай сцяне,
А пад пылам сумуе па мне людажэрка.

Ах, люстэрка, ты ведаеш, пэўна, зашмат таямніц,
І падзеяў, і змрочных сакрэтаў...
Вось чаму цябе варта да скону прыкрыць,
І забыцца на смерць адгэтуль.



## Вольная воля

Можна сесці на брудны кардон
ля ўвахода ў метро:
Лепш каля «Інстытута культуры»,
а не — дык «Нямігі»,
І ў падраны пакет, капялюш ці наогул вядро
Падаянне збіраць, апрануўшы рыззё забулдыгі.

Памаліцца на літасць разбэшчанага патруля,
Што нахабна здзірае з падлеткаў
чырвоныя крылы,
Падлічыць вашу шчодрасць
і скласці рубля да рубля,
Каб затым скіравацца туды,
дзе «свабода — “чарнілу”!»

Перайсці праз масткі на будоўлю,
каб там лоб у лоб
З важаком аднавокім свабоднае зграі сабачай
Піць з нямытае місы «Ляснічага зоры» ўзахлёб
І сярод рубероіду скурчыцца ў радасным плачы.

Гэта ўсё ірэальна, але верагодна,
Як захочаш напоўніцу дыхаць свабодай!

## Дальтонік

Я жыву між зялёна-чырвоных дрэваў
на такім жа чырвона-зялёным праспекце,
дзе на святы гучаць ачмурэлыя спевы
і сцяжкамі харчуюцца пульхныя дзеці...

Людзі ў дзіўных зялёна-чырвоных строях
піва п'юць ці віно (калі ёсць) па кватэрах,
ці навіны глядзяць па БТ пра тутэйшых герояў,
ці займаюцца сэксам пасля няхітрай вячэры.

Шчасны я, бо гуляю без пэўнай нагоды...
Не глядзі мне ў патыліцу, дзядзька палкоўнік, —
я стаю не злачынцам на пляцы Свабоды,
я не хворы, хіба што звычайны дальтонік....



* * *

Адбіткі нашых пальцаў
спаткаюцца міжволі
на лавах і парэнчах,
на чаранку нажа...
А я хачу сустрэчы іх
не ў горадзе, а ў полі,
ускраіны якога
ахутвае імжа.

А я хачу сустрэчы іх
жывой і нечаканай,
каб некалі далонька
знайшла сабе далонь.
Каб тое поле чула:
«Дык вось ты дзе, каханы!»,
каб поле ўрэшце ўбачыла
у даланях агонь.

* * *

Ціхай і самотнай невідзімкай
Па барвяна-рыжым дыване
Нетаропка, з дымам у абдымку,
Ты прайшла паволі скрозь мяне.

Лёгкі дотык холаду і цноты
Да галін аголенай душы...
Ты вядзьмарка ці хімера, хто ты?
Не знікай дарэшты, адкажы!

Твой абрыс хаваецца паволі
У суцьменні восеньскага дня,
Толькі стрэмка ў сэрцы плаціць болем...
Немагчыма гэты боль суняць.



## Застацца жыць...

Застацца жыць на роднае зямлі,
Калі шалёны рум нявечыць, круціць...
Насуперак палонцы і пятлі,
Смярдзючым нарам, кулі ці атруце.

Застацца жыць хаця б яшчэ таму,
Каб пераажыць чарговую карыду:
Пераатрываць і ганьбу, і турму
Ды вырвацца з людскога суіцыду.

# Змест

**Сыс, С.**
С95 Стрэмка : вершы / Сяржук Сыс. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 112 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 18)
ISBN 978-985-7007-41-7.

Паэзія Сержука Сыса, знаёмая аматарам з перыядычнага друку ды інтэрнету, упершыню сабраная пад адной вокладкай. Запамінальныя вобразы, элементы самабытнай міфалогіі, філасофскія і настальгічныя матывы, іронія і гумар, уласцівыя творам паэта, далучаюць чытача да непаўторнага свету лірычных перажыванняў аўтара.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4 Беи)-5**

На вокладцы – карціна Алеся Пушкіна «Веснавы шчупак»,
створаная адмыслова для гэтай кнігі.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 18

**Сыс** Сяржук
(Сяргей Анатольевіч)

**СТРЭМКА**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 20.12.2011. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,44.
Ул.-выд. арк. 2,57. Наклад 300 ас. Зак. 891.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.